# ЗЬМЕСТ



"Годнасьць": выданьне Згуртаваньня Беларускае Шляхты.

Навукова-папулярны квартальнік.

Рэдактар — Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.

Мастак — Максім Капран.

Адрэса:
Беларусь 220 102,
Менск-102, а.с. 212.
"Годнасьць".

Address:
Hodnaść (Dignity)
magazine.
P.O. Box 212,
Mensk-102,
220 102 Belarus.

Facsimile: (0172)31-73-70



Наклад — 500 асобнікаў.

БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА „АДРАДЖЭНЬНЕ". МЕНСК. 1994

*Сяргей Рыбчонак*

# МЕНСКІЯ ВАРШТАТЫ У 1-Й ЧВЭРЦІ 19 СТАГОДЗЬДЗЯ (НАРЫСЫ З ГІСТОРЫІ ВОЛЬНАМУЛЯРСКАГА РУХУ НА БЕЛАРУСІ)

Гісторыя вольных муляраў пачынаецца не з цара Саламона, як яны самі цьвердзілі, і, нават, не зь сярэднявечных цэхаў Італіі, як шмат хто мяркуе, але з самых звычайных лёнданскіх клюбаў пач. 18 ст. За кароткі час мулярскія варштаты апанавалі амаль усе разьвітыя краіны сьвету — Францыю, Прусію, Аўстра-Угоршчыну, Злучаныя Штаты Амерыкі, Рэч Паспалітую, Расею ды інш.

Масонства ў Рэч Паспалітую пранікае з Прусіі, і з 1784 г., пасьля стварэньня "Вялікага Усходу Польскага й Літоўскага", набывае трывалую арганізацыю.[1] На жаль, гэты працэс вельмі слаба адлюстраваны як у пісьмовых, гэтак і ў друкаваных крыніцах. Відавочна, што на землях Беларусі вольнамулярства было шчыльна зьвязана з Варшаваю. Але, вядомы прыклады пранікненьня масонства й з Усходу, гэтак, Бакунін сьцьвярджаў, што ў Магілёве, які з 1772 г. знаходзіўся ў складзе Расейскай імперыі, існаваў варштат "Геркулес у Калысцы"[2].

З пачатку 19 ст. (1809—1814) пачынаецца другі этап масонскага руху на Беларусі. Асноўныя мэты й накірункі дзейнасьці вольных муляраў засталіся ранейшымі, у той час, як умовы іхнага йснаваньня зьмяніліся карэнным чынам — не было больш шляхецкай вольнасьці, завітаў на Беларусь казённы дух імперыі.

Разам з тым, лібералізм маладога імператара Аляксандра І, аднаўленьне аўтаномнага Царства Польскага, паспрыялі зьяўленьню ў польска-беларускім грамадзтве пэўных надзеяў. На вышэйшым узроўні пачаліся спрэчкі пра далучэньне да гэтага Царства літоўскіх губерняў (Віленскай, Горадзенскай, Менскай) ці стварэньня аўтаномнага Вялікага княства Літоўскага ў межах Расейскай імперыі. Надзеі муляраў на Аляксандра І былі настолькі моцныя, што яны шчыра сьвяткавалі ягоныя ймяніны (заснаваньне менскай "Паўночнай паходні" было, нават, прымеркавана да гэтае падзеі), лічылі яго сваім патронам і заклікалі да рашучых зьменаў у грамадзтве. Пра гэта

сьведчыць напісаная з нагоды ўрачыстага сходу рацэя, дзе між іншым выказвалася ўдзячнасьць імператару, што ён "не забараніў варштату працаваць", што ягоныя імкненьні супадаюць з мулярскімі й накіраваны да "адзінства й шчасьлівага быту ўсіх", набліжаюць гадзіну "калі моцны ланцуг [масонаў] ахіне ўсю прастору зямлі", а народ, які "ўзвысіцца ў сваіх імкненьнях, будзе баслаўляць імя Аляксандра й варштат"[3].

Несумненна, што філязофія масонаў на пач. 19 ст. мела гуманістычна-ліберальны накірунак францускага асьветніцтва, а асноўным прынцыпам іхнае працы была роўнасьць людзей, які прадэкляравала французская рэвалюцыя. Яскравы доказ таму прамова сябры "Паўночнай паходні" Людвіка Плятара ў 1817 г., што захавалася ў выглядзе пераказа чыноўніка, тады ён сказаў: "Толькі праз устанаўленьне роўнасьці, празь іскру дабрачыннасьці, якую [мы] ў сакрэце на працягу вякоў захоўвалі, заясьнее некалі дзень адраджэньня ў які, дзеля аджыўнага сьвету, вернецца першая нявіннасьць, цнота й шчасьце". І далей, гаворачы пра вольнасьць і роўнасьць, адзначаў, "што перад тронам найпрэасьвяшчэннага аднолькава сагнуць калені, як сын і брат Каралеўскі, гэтак і рамесьнік, які жыве працаю сваіх рук; няма [у нас іншага] гаспадара, як закон [роўнасьці], таму кожны, без выключэньня, сьлепа падпарадкоўваецца й паслушным [яму] быць павінен, і гэта ёсьць праўдзівая, шмат вякоў таму ўстаноўленая й захаваная, адзіная дзеля ўсіх ісьціна ў абліччы закону ... Падпарадкуючыся гэтаму закону й зьнешнім абставінам, мы будзем супрацьстаяць [сваімі] намаганьнямі цемнасьці, цешыць долю пакутных, памнажаць лік абаронцаў, памяньшаць ганіцеляў, пашыраць уладу роўнасьці й тады ператворым цёмных жыхароў у людзей, усіх людзей у братоў, а ўвесь сьвет у нявенчаную цноту, і народу зьменім сьвятыні"[4].

Людзі, якія лічылі мэтаю жыцьця самаўдасканаленьне, устанавілі ў сваёй арганізацыі досыць жорсткія правілы — ня мог быць масонам чалавек, які вёў распуснае жыцьцё, піў, нават гуляў у карты, што выявіў, прыкладам, ананімны ліст, і яскрава пацьвердзіў таварыскі суд над сябрам П. Талачынскім[5]. Сярод муляраў былі выпадковыя й няўстойлівыя людзі, ды й сама хуткасьць зьяўленьня варштатаў гаворыць хутчэй пра пачуцьці, а не пра дзеі. У 1817 г. кіраўніцтва "Паўночнай паходні" зьвярнулася да Літоўскай правінцыйнай ложы зь лістом, дзе пісалася, што падмайстар ксёндз Самуэль Кастравіцкі не прымае ўдзелу ў працы варштату. Выкліканы на таварыскі суд той заявіў, што адзіная перашкода гэтаму — папскія булы, якія забараняюць сьвятарам удзел у масонскім руху, пра што ён быццам ня ведаў пры ўступу. Каб гэты выпадак не застаўся без пакараньня ложа прасіла "няхай падзе на яго заслужаная пагарда ўсіх братоў на сьвеце". Кастравіцкі ж на

разьвітаньне даслаў ліст былым прыяцелям, дзе па хрысьціянску пісаў, што "ніколі не перастане лічыць іх братамі й сваімі блізкімі, якія заўжды маюць права на ягоную дапамогу"[6]. Але "браты" засталіся нязломнымі, толькі пашкадавалі ў сваёй пастанове, што на пач. 19 ст. на сьвеце яшчэ ёсьць людзі якім "[рэлігійны] фанатызм закрывае сьвятло ісьціны"[7].

Нягледзячы на выключэньне некалькіх асобаў, варштат, усёж, нязначна палепшыў сваю дзейнасьць. Асноўным накірункам яго была дабрачыннасьць, грашовыя сродкі ў скарбніцу варштата паступалі двума шляхамі — гэта сяброўскія складкі за ўзьвядзеньне на ступень і дабраахвотныя ахвяраваньні. Ведама некалькі канкрэтных выпадкаў куды накіроўваліся грошы: у 1817 г. ахвяраваныя Б. Бярновічам 700 руб. — мастаку Дамелю, у 1817 г. Трэмбінскім — на адзежу дзеля бедных, у 1818 г. Л. Дыбоўскі абавязаўся выплочваць па 100 зл. на год на карысьць бедных[8]. Зь вельмі цікавай ініцыятывай выступіў у 1820 г. магістар Ходзька. Ён прапанаваў стварыць у Менску школу дзеля выхаваньня й навучаньня бедных дзяцей па метаду Ланкастара[9]. Нажаль, невядома ці была гэтая ўстанова адчынена. Увогуле, прыкладаў дабрачыннасьці, аднак, няшмат.

* * *

У Менску існавалі два варштаты: 1) сімвалічны, зь сяброўствам 1-3 ступені, г. зн. вучань, падмайстар і майстар (кіраўніцтва мела й вышейшыя ступені) — "Паўночная паходня" і 2) вышэйшы капітул шкоцкі, зь сяброўствам 6-7 ступені, г. зн. рыцар усходу й кавалер злата-ружовага крыжа — "Гара Табар". Па нашых падліках у першым было ня менш 215 сябраў (лічба 222, што падаецца чыноўнікам, памылковая), другім — 31 сябра[10]. Зразумела, гэтыя лічбы агульныя за ўвесь час існаваньня варштатаў і досыць умоўныя. Шмат хто з муляраў быў адначасова ўдзельнікам некалькіх ложаў, як прыкладам, памешчык Менскага пав. П. Прыстаноўскі, які лічыўся ад 1814 г. у "Шчасьлівым вызваленьні" (Нясьвіж), ад 1816 г. у "Паўночнай паходні", а з 1819 г. У "Сьвятыні пакою" (Нясьвіж), урэшце, з 1821 г. у "Гары Табар"[11]. Вольныя муляры вельмі клапаціліся пра пашырэньне сеткі сваіх філіяў. Гэтак, памешчыкам Дзісенскага пав. І. Акушку, Валасоўскаму й С. Рашкоўскаму патрабавалася ў 1817 г. 3-я ступень каб заснаваць новую сімвалічную ложу ля свайго мейсца жыхарства[12].

Заснавальнікамі "Паўночнай паходні" ў 1816 г. былі сямёра чалавек, бо лічылася, што менавіта гэткая колькасьць сябраў робіць ложу дасканалай. Былі гэта — Ян Барэйка-Ходзька, ініцыятар і першы магістар варштату, Ян Норвід, Пётр Прыстаноўскі, Ян Серакоўскі, Альберт Бургельскі, Вінцэнт Ляўковіч і Юзэф Рагоза[13].

Як сьведчыць Малахоўскі-Лямпіцкі, ў 1820 г. пасады "Паўночнай Паходні" былі размеркаваны наступным чынам:

магістар — Дамінік Манюшка, былы маёр войскаў ВКЛ;

нам. магістра — Апалінары Ванькові́ч;

нам. магістра па абрадах — Тэадор Любаўскі, загадчык Менскага вайсковага шпіталя;

1-ы дазорца — Мікалай Пашкоўскі, адвакат;

2-і дазорца — Вінцэнты Фрыбэс, сакратар Менскага грамадзянскага губернатара;

прадстаўнік у Правінцыяльным Літоўскім камітэце — Юзэф Завадзкі, друкар і выдавец;

аратар — схаваны пад ініцыяламі Z.I.;

сакратар — Вінцэнт Грынеўскі, адвакат 2-га дэпартаменту Менскага галоўнага суда;

нам. сакратара — Гіляры Якубоўскі, рэгент 2-га дэпартаменту Менскага галоўнага суда;

нам. па агульных мовах — Пётр Шнэйдэр, выкладчык гімназіі;

1-ы сьцюард — Юры Кабылінскі, тытулярны радца;

2-і сьцюард — Гіпаліт Гайдукевіч[14].

Ложы мелі ў сваёй структуры служкаў і ганаровых сябраў, што ў дачыненьні да "Паўночнай паходні" выглядае гэтак: з 215 чалавек было 143 сябра, 9 служкаў і 63 ганаровых сябра[15].

Менскія муляры, на нашу думку, групаваліся вакол двух цэнтраў — гэта Менскі галоўны суд, 8 службоўцаў якога былі сябрамі "Паўночнай паходні" і Менская мужчынская гімназія, адпаведна 7 чалавек. Большасьць жа сябраў паходзіла з сярэдняе й дробнае шляхты Менскага, Наваградзкага, Вілейскага, Дзісенскага й Барысаўскага пав. Менскай губерні, было некалькі службоўцаў дзяржаўных установаў, адвакатаў, музыкаў, медыкаў, верагодна, што й яны былі шляхецкага паходжаньня.

Менскай ложай найвышэйшага капітулу была "Гара Табар". Малахоўскі-Лямпіцкі аднёс зьяўленне гэтага варштату да 1818 г.,[16] паводле нашых крыніцаў гэта адбылося толькі ў красавіку 1821 г.[17] Ягоным магістрам быў абраны Менскі віцэ-губернатар Людвік Каменскі. Са сьпісу, што ён прадставіў уладам пасьля закрыцця ложы, вынікае, што "Гара Табар" налічвала ня менш 31 сябра (пераважна з "Паўночнае паходні" і нясьвіскіх варштатаў)[18]. Грашовых рахункаў і архіву па ёй чыноўнікі не адкрылі, што нібыта сьцьвердзіла словы Каменскага, быццам, варштат не йснаваў увогуле, а ўсе ягоныя сябры плацілі складкі "Вялікаму ўсходу Польскаму й Літоўскаму" асабіста. Але зусім пра супрацьлеглае сьведчыць факт атрыманьня А. Ваньковічам, Л. Ашторпам, А. Ратынскім і М. Зяновічам 8 кастрычніка 1821 г. 6-й ступені — рыцар усходу[19].

Варштат усёж быў па сваёй дзейнасьці хутчэй фікцыйны, яе ён

проста не пасьпеў распачаць. Нават раней указа Аляксандра I ад 1 жніўня 1822 г., намесьнік Царства Польскага Заенчык, занепакоены ўсё большаю радыкальнасьцю масонаў, (пра якіх Менскі губернатар у сакрэтным лісьце да Цэсарэвіча пісаў, што яны былі небяспечныя з-за сваіх імкненьняў "да роўнасьці й незалежнасьці"[20]), выдаў загад, згодна якому "Вялікі Усход Польскі й Літоўскі" ліквідоўваўся да 1 кастрычніка 1821 г., а ўсе правінцыяльныя ложы, яму падпарадкаваныя, да 15 кастрычніка. Менавіта пасьля гэтага загаду, 29 верасьня 1821 г. Вялікі магістар А. Ражнецкі даслаў у "Паўночную Паходню" ліст, дзе было сказана: "Зачыніць ложу і дзеля наступнага захаваньня ўсіх архіваў, рэчаў, і грошай заснаваць камітэт з 3 чалавек... каб усё было схавана ў бясьпечным мейсцы, каб пячаткі былі здадзены ў архіў, былі складзены інвентары ўсіх папераў, рухомай і нерухомай маёмасьці, і разам з пастановамі пра зачыненьні ложаў, былі перададзены Вялікаму магістру"[21].

Прайшло амаль 7 гадоў покуль чыноўнікі Камітэта па разбору масонскіх архіваў скончылі сваю работу, і 24 студзеня 1829 г. цэсарэвіч накіраваў Менскаму грамадзянскаму губернатару загад, у якім між іншым ішла гаворка: "...5) усе масонскія паперы й архівы, а таксама пячаткі, кароны, ляскі й іншыя знакі, прысвоеныя розным ступеням і ўрадам, паклаўшы ў асобныя куфары, апячатаў, захоўваць у архіве грамадзянскага губернатара пры сакрэтных справах."[22]

Працяг гэтае справы адбыўся праз 10 гадоў, і лёс матар'яльнае спадчыны масонаў не зайздросны. 21 ліпеня 1839 г. мясцовыя ўлады атрымалі загад Віленскага ваеннага губернатара кн. Доўгарукага: "Усе масонскія знакі, кнігі, паперы, дыплёмы й іншыя рэчы — па вырыцьці ямы, ўнізу пад гарою, пры вуліцы вядучай каля Жыдоўскіх могілак да Ляхаўкі — спаліць"[23]. Выканалі гэты загад Менскі паліцмайстар маёр Тызенгаўзэн, павятовы страпчы Сямянкевіч і чыноўнік па сьпецыяльных даручэньнях Будзька.[24]

## Крыніцы і літаратура


1. Добрянский С.Ф. Масонские ложи в Литве// Записки СЗО РГО. — Вильно, 1911. — Кн.2. — С. 231 — 232.
2. Bakounine T. Les repertoires biographique des francs-masons russes. — Bruxelles, 1949. — S. 123 — 124.
3. НА РБ. — Ф. 295, воп. 1, спр. 286. — С. 226адв. — 227.
4. Тамсама, с. 227 — 227адв.
5. Тамсама, с. 218.
6. Malachowski-Lempicki S. Wolnomurarstwo na ziemiach dawnego WXL (1776 — 1822). — Wilno, 1930. — S. 34 — 35.
7. НА РБ. — Ф. 295, воп. 1, спр. 286. — С. 206 — 207.
8. НА РБ. — Ф. 295, воп. 1, спр. 286. — С. 203, 205, 208.

9. Тамсама, с. 231.
10. Тамсама, с. 163адв. — 164.
11. Тамсама, с. 171, 238, 241, 301адв.
12. Тамсама, с. 208адв. — 209.
13. Тамсама, с. 171.
14. Malachowski-Lempicki, s. 33 — 34.
15. НА РБ. — Ф. 295, воп. 1, спр. 286. — С. 163адв.
16. Malachowski-Lempicki, s. 59.
17. НА РБ. — Ф. 295, воп. 1, спр. 286. — С. 164.
18. Тамсама, с. 238 — 238адв.
19. Тамсама, с. 164.
20. Тамсама, с. 166адв.
21. Тамсама, с. 167 — 167адв.
22. Тамсама, с. 336.
23. НА РБ. — Ф. 295, воп. 3, спр. 76. — С. 13 — 14.
24. Тамсама, с. 32 — 33.

## Дадатак 1
## Сьпіс сябраў варштата "Паўночная паходня"

1. Гіляры Аборскі, падкаморы Менскі.
2. Віктар Азямблоўскі, адвакат Ігуменскіх прысутных месцаў.
3. Юзэф Акушка, Дзісенскі павет.
4. Ігнацы Алеша.
5. Ян Аляшкевіч, квартальны Радашковіцкі.
6. Гіляры Арцімовіч, доктар медыцыны.
7. Фэліцыян Арцімовіч, калежскі сакратар.
8. Антоні Арцішэўскі, падпалкоўнік Літоўскага уланскага палка.
9. Казімер Аскерка, суддзя гранічны Вілейскі.
10. Ян Аскерка, маршалак Вілейскі.
11. Леан Ашторп.
12. Ануфры Багдановіч, паручык войскаў польскіх.
13. Ігнацы Багдановіч.
14. Казімер Багдановіч, Вілейскі павет.
15. Тэадор Багіжмольскі, капітан войскаў польскіх.
16. Матэвуш Бардзкі, падсудак Вілейскага павятовага суда.
17. Ян Барсук, суддзя Ігуменскага павета.
18. Францішак Беліковіч, з ложы Санкт-Пецярбурга.
19. Ян Беліковіч, падкаморы Полацкі.

20. Цыпрыян Беліновіч, кандыдат філязофіі, Менская гімназія.
21. Караль Бідэрман, надворны радца, дывізійны лекар.
22. Ігнацы Брадоўскі, прэфэкт Менскай гімназіі.
23. Ян Брант, даглядчык вайсковых лазарэтаў.
24. Аўгустын Брастоўскі (Бжастоўскі), Дзісенскі павет.
25. Альберт Бургельскі.
26. Ігнацы Буцэвіч, падсудак Менскага павятовага суда.
27. Сарвацы Бярновіч, старшыня Менскага губернскага гранічнага суда.
28. Іван Бястужаў, адютант гэнерала Фурка.
29. Фэлікс Вайдзевіч.
30. Вінцэнт Валадковіч, падкаморы Віленскі.
31. Канстанцін Валасоўскі.
32. Юзэф Валасоўскі, Дзісенскі павет.
33. Ліфтон-Арыст Вандзевіч, юнкер.
34. Апалінары Ваньковіч, Менскі павет.
35. Эдвард Ваньковіч, харужы Менскі.
36. Ян Ваньковіч, гранічны суддзя Менскі.
37. Аляксандар Вэйс, адютант Цэсарэвіча.
38. Ян Верчун, ротмістар уланскага Конна-Польскага палка.
39. Густаў Ветлер, палкоўнік войскаў расейскіх.
40. Фэлікс Вішнеўскі, пісар земскі Мазырскі.
41. Іван Вішнякоў, радца ?
42. Гіпаліт Гайдукевіч.
43. Алаізы Галаўня.
44. Вінцэнт Гарловіч, юнкер Татарскага ўланскага палка.
45. Мікалай Гатоўскі, на вайсковай службе.
46. Тамаш Гендэрсон.
47. Міхал Герман, каморнік.
48. Вінцэнт Грынеўскі, адвакат Менскага галоўнага суда 2-гі дэпартамент.
49. Каэтан Датамінскі.
50. Аляксандар Гэнрыцкі, штаб-лекар Менскага вайсковага шпіталя.
51. Фэрдынанд Дваржэцкі, падсудак Вілейскага павятовага суда.
52. Аўгустын Дрозд, настаўнік музыкі, гаспадар жаночага пансіёна.
53. Барнаба Дэдэрка.
54. Рох Дэдэрка, Вілейскі павет.
55. Леапольд Дзітоўскі.
56. Ігнацы Есьман.
57. Юстын Есьман, харужы Ігуменскі.
58. Ян Жылінскі, ксёндз, капэлян Менскай гімназіі.
59. Юльян Жэлігоўскі.

60. Юзэф Заблоцкі, ротмістар уланскага палка.
61. Тэадор Замойскі.
62. Валенты Зубрыцкі (Замбжыцкі), Менскі павет.
63. Ігнацы Зяновіч, кандыдат філязофіі.
64. Міхал Зяновіч, Менскі губернскі маршалак.
65. Антоні Ёдка, Менскі галоўны суд, 2-і дэпартамент.
66. Ігнацы Іваноўскі, лаўнік Менскага галоўнага суда, 2-і дэпартамент.
67. Раман Іваноўскі, адвакат Менскага галоўнага суда, 2-і дэпартамент.
68. Ежы Кабылінскі, тытулярны радца.
69. Базыль Калкоўскі.
70. Васіль Каратокцін, падпрапаршчык войскаў расейскіх.
71. Міхал Карказевіч.
72. Ян Карказевіч, падсудак Барысаўскага павятовага суда.
73. Казімер Касоўскі, суддзя гранічны Ігуменскі.
74. Самуэль Кастравіцкі, ксёндз, выключаны ў 1817.
75. Ян Квяткоўскі, павятовы лекар Вілейскі.
76. Юзэф Лазінскі, артыст музыкі.
77. Міхал Лапіцкі, пісар земскі Вілейскі.
78. Юзэф Лапушынскі, магістар філязофіі.
79. Фёдар Лыкаў, доктар медыцыны.
80. Ян Любанскі, палкоўнік войскаў польскіх.
81. Тэадор Любаўскі, даглядчык Менскага ваеннага шпіталя.
82. Ян Ляндразын, паручык войскаў французскіх, гувернёр.
83. Сымон-Францішак Лянтоўскі, гэаметр.
84. Вінцэнт Ляўковіч, паручык войскаў польскіх.
85. Фэрдынанд Мадзалеўскі, служка варштата.
86. Людвік Мантэграндзі, капітан войскаў расейскіх, настаўнік Менскай гімназіі.
87. Дамінік Манюшка, адстаўны маёр войскаў польскіх, магістар варштата (1819).
88. Казімер Манюшка, доктар абодвух праваў.
89. Чэслаў Манюшка, былы капітан войскаў польскіх.
90. Юзэф Манюшка, харужы Барысаўскі.
91. Антоні Марціноўскі, адвакат Вілейскі.
92. Аўгустын Массыні, выхадзец з Францыі.
93. Міхал Матусевіч, служка варштата.
94. Стэфан Мацкевіч, Завілейскі павет.
95. Фэліцыян Машынскі, падсудак Ігуменскага павятовага суда.
96. Раман Міладоўскі.
97. Ян Мірскі, дэпутат Дзісенскага павета.
98. Ян Норвід.
99. N. Пашкевіч, служка варштата.

100. Мікалай Пашкоўскі, адвакат Менскага галоўнага суда, 2-і дэпартамент.
101. Мікалай Підо(т), кандыдат філязофіі, Менская гімназія.
102. Афанасі Про(у)шынскі, суддзя гранічны Менскі.
103. Яўстафі Про(у)шынскі.
104. Пётр Прыстаноўскі.
105. Антоні Пятрыкоўскі, артыст музыкі.
106. Юзэф Пятух.
107. Юзэф Рагоза.
108. Францішак Ражанскі.
109. Людвік Ракіцкі, стацкі радца.
110. Міхал Ракіцкі, Рэчыцкі павет.
111. Аляксандар Раманус, адстаўны капітан войскаў польскіх.
112. Антоні Ратынскі.
113. Эмануэль Рашэт, падпалкоўнік войскаў расейскіх.
114. Серафін Рашкоўскі, Дзісенскі павет.
115. Антоні Салагуб.
116. Ян Серакоўскі.
117. Канстанцін Станскі, былы маёр войскаў польскіх.
118. Матэвуш Стравінскі, артыст музыкі.
119. Казімер Сулістроўскі, губернатар Менскі, магістар варштата (1819).
120. Рамуальд Сымановіч.
121. Станіслаў Сьвентаржэцкі.
122. Ян Сьнітка, павятовы казначэй Менскі.
123. Павел Сьцяпанаў, палкоўнік войскаў расейскіх.
124. Аляксандр Сямінскі.
125. Вінцэнт Сянкевіч, Менская гімназія.
126. Пётр Тарчынскі.
127. Аляксандар Трабінскі, чыноўнік 13 клясы.
128. Караль Трцынскі (Тжцынскі), артыст музыкі.
129. Францішак Ужыхоўскі, служка варштата.
130. Ян Федаровіч, служка варштата.
131. Вінцэнт Фрыбэс, сакратар Менскага грамадзянскага губернатара.
132. Францішак Фрыбэс, адстаўны капітан войскаў польскіх, бугальтар варштата.
133. Міхал Фрэйт, артыст музыкі.
134. Ян Хаецкі, земскі іспраўнік Віленскі.
135. Ігнацы Ходзька, сакратар пры Яну Ходцы.
136. Ян Ходзька, 1-шы магістар варштату(1816—1818).
137. Юзэф Цюндзявіцкі, суддзя гранічны.
138. Людвік Чарніхоўскі, маршалак Вілейскі.
139. Апалінары Чачот, суддзя гранічны Менскі.

140. Ян Чачот, кандыдат філязофіі, Менская гімназія.
141. Іван Чмыхаў, сакратар Менскага галоўнага суда, 1-ы дэпартамент.
142. Вінцэнт Шалькевіч, артыст музыкі.
143. Пётр Шнэйдэр, Менская гімназія.
144. Станіслаў Штэйн, ксёндз, капэлян Конна-польскага ўланскага палка.
145. Паўліні Шулякоўскі, служка варштата.
146. Міхал Шышка.
147. Казімер Эйтвід, служка варштата.
148. Сігізмунт Эстка, суддзя гранічны Ігуменскі.
149. Якуб Эстка, суддзя гранічны Вілейскі.
150. Гіляры Якубоўскі, рэгент Менскага галоўнага суда, 2-і дэпартамент.
151. Павел Яленскі, Мазырскі павет.

## Дадатак 2
## Ганаровыя сябры варштату "Паўночная паходня"

1. Людвік Агінскі, дырэктар польскага тэатра.
2. Еранім Адынец, Слуцкі павет.
3. Юзэф Аксамітоўскі, паручык войскаў польскіх.
4. Нарцыз Алізар, Валынская губерня.
5. Вінцэнт Ахлі, Наваградзкая ложа.
6. Ян Буцэвіч, адстаўны маёр войскаў расейскіх.
7. Малхер Валадковіч, маршалак Віленскі.
8. Флярыян Відза, суддзя апеляцыйны Царства Польскага.
9. Валенты Вілкашэўскі, палкоўнік войскаў польскіх.
10. Ежы Вільчэўскі, шамбелян двара польскага.
11. Станіслаў Венгжэцкі, старшыня камерцыйнага трыбуналу.
12. Адам Гарабурда, суддзя Слуцкі.
13. Лаўрэнты Гаркоўскі, Санкт-Пецярбурская ложа "Белы арол".
14. Юзэф Гарэцкі, Санкт-Пецярбурская ложа "Белы арол".
15. Людвік Гінэт, кантралёр Царства Польскага.
16. Адам Гінтэр, былы старшыня Менскага суда, 1-ы дэпартамент.
17. Габрыэль Гольц, доктар медыцыны.
18. Караль Гофман, палкоўнік войскаў польскіх.
19. Якуб-Фрыдрык Гофман, прафэсар Варшаўскага ўніверсітэта.
20. Эрнэст Гродак, прафэсар Віленскага ўніверсітэта.
21. Вінцэнт Дабранскі.
22. Тадэвуш Дамброўскі, жывапісец.
23. Хрызастом Дамброўскі, суддзя гранічны Слуцкі.

24. Ян Дамель, жывапісец.
25. Ксаверы-Францішак Дарнфэльд, мецэнал пры найвышэйшым суду.
26. Міхал Длускі, прэлат Віленскі.
27. Адам Жамойцель.
28. Адам Жэвускі, Санкт-Пецярбурская ложа "Белы арол", сенатар.
29. Юзэф Завадзкі, тыпограф Віленскага ўніверсітэта.
30. Казімер Каменскі.
31. Людвік Каменскі, былы Менскі віцэ-губернатар.
32. Станіслаў Класоўскі.
33. Ян Котвіч.
34. Станіслаў Курчынскі, прафэсар артылерыйска-інжынернай школы.
35. Ян Лёншон, адстаўны капітан войскаў польскіх.
36. Якуб Лібельт.
37. Якуб-Герман Лібельт.
38. Юзэф Маркіяновіч, Санкт-Пецярбурская ложа.
39. Міхал Мацкевіч.
40. Караль Мураўскі, гэнерал войскаў польскіх.
41. Канстанцін Навамітскі.
42. Банавентура Навіцкі.
43. Матэвуш Навіцкі, гэаметр.
44. Адам Непакайчыцкі, маршалак Слуцкі.
45. Ян-Антоні Нофак, банкір.
46. Станіслаў-Костка Патоцкі, магістар "Усходу Польскага", міністар асьветы й рэлігіі [Княства Варшаўскага].
47. Аляксандар Пацей, былы абозны Літоўскай кавалерыі.
48. Аляксандар Пейкер, генерал войскаў расейскіх.
49. Людвік Плятар, стацкі радца.
50. Ян Развадоўскі, гэнерал войскаў польскіх.
51. Аляксандар Ражнецкі, гэнерал войскаў польскіх.
52. Міхал Сабескі.
53. Ян Сергушэўскі, ротмістар Конна-Польскага ўланскага палка.
54. Станіслаў Сержыінскі, паручык войскаў польскіх.
55. Юзэф Сіпайла, Санкт-Пецярбурская ложа "Белы арол".
56. Юзэф Струміла, радца.
57. Антоні Турскі, Слуцкі павет.
58. Вінцэнт Тышкевіч, Барысаўскі павет.
59. Мікалай Філімонаў, палкоўнік войскаў расейскіх.
60. Ануфры Хрушчэўскі.
61. Юзэф Эльсьнер, дырэктар музыкі.
62. Адам Эстка, Віленская ложа.
63. Станіслаў Язерскі, Слуцкі павет.

## Дадатак 3
## Сябры варштату "Гара Табар"

1. Леан Ашторп, маршалак Ігуменскі.
2. Малхер Вайніловіч, былы маршалак Вілейскі.
3. Флярыян Вайніловіч, гэнерал войскаў польскіх.
4. Малхер Валадковіч, былы маршалак Вілейскі.
5. Апалінары Ваньковіч, былы павятовы маршалак Менскі.
6. Тамаш Гендэрсон, павет Слуцкі.
7. Габрыэль Гольц, доктар медыцыны.
8. Хрызастом Дамброўскі, межавы суддзя Слуцкі.
9. Адам Жамойцель, Слуцкі павет.
10. Міхал Зяновіч, былы губернскі маршалак Менскі.
11. Густаў Ігельстром, брыгадны гэнерал.
12. Казімер Каменскі, былы суддзя Лідзкі.
13. Людвік Каменскі, былы старшыня Менскага галоўнага суда, былы Менскі віцэ-губернатар.
14. Дамінік Манюшка, маёр войскаў польскіх.
15. Кароль Ма(у)роўскі, гэнерал-маёр войскаў польскіх.
16. Міхал Мацкевіч.
17. Юзэф Мітарнаўскі, грамадзянскі суддзя Наваградзкі.
18. Ігнацы Мухлінскі, Наваградзкі павет.
19. Банавентура Навіцкі, капітан былых войскаў польскіх.
20. Адам Непакайчыцкі, маршалак Слуцкі.
21. Петр Прыстаноўскі, Менскі павет.
22. Людвік Развадоўскі, Слуцкі павет.
23. Ян Развадоўскі, гэнерал войскаў польскіх.
24. Антоні Ратынскі, Ігуменскі павет.
25. Казімер Рдултоўскі, былы маршалак Наваградзкі.
26. Дамінік Рэйтан, адстаўны падпалкоўнік, Слуцкі павет.
27. Антоні Салагуб, Менскі павет.
28. Антоні Турскі, суддзя Лідзкі.
29. Францішак Фрыбэс.
30. Караль Чапскі, былы Менскі павятовы маршалак.
31. Станіслаў Язерскі, Слуцкі павет.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта*

# ВАСІЛЬ ЦЯПІНСКІ Й РОД СЛУШКАЎ-ЦЯПІНСКІХ У 16 СТАГОДЗЬДЗІ

Пра Васіля Цяпінскага напісаны шэраг артыкулаў, ён згадваецца ў энцыкляпедыях і падручніках, але постаць яго даволі загадкавая. Можа таму, што яму надавалі мала ўвагі, бо на сёняшні дзень самая грунтоўная праца пра Цяпінскага налічвае 34 старонкі.[1]

Невядома канкрэтна і пра ягонае паходжаньне, найменьне Цяпінскі відавочна зьвязанае зь земляўладаньнем. Доўнар-Запольскі сьцьвярджаў, што поўнае прозьвішча, — гэта Цяпінскі-Амельяновіч,[2] а пазьнейшыя даследчыкі лічылі "Цяпінскі" накшталт псеўдоніма.




Аднак прозьвішча Цяпінскі бытавала й аж да 19 ст., калі шляхцічы Слушка-Цяпінскія былі зацьверджаныя ў дваранстве Расейскай імперыі. Тут выклікае цікавасьць спалучэньне гэтых прозьвішчаў. Калі росшук Цяпінскіх у радаводнай літаратуры даў малы плён, дык род Слушкаў (ці Служкаў) быў шырока вядомы. Асабліва цікавыя матарялы падае Банецкі.

Пад 1516 г. ён згадвае каралеўскага баярына Грыгорыя Амяльянавіча Слушку, які пакінуў пасьля сябе двух сыноў Івана й Паўла. Увагу прыцягваюць апошнія словы артыкула: "Іван дзедзічыў у 1547 годзе на Цяпіне і Новым сяле, а Павел на Вяжыне."[3]

Ня менш важкія сьведчаньні атрымліваем зь ліста Жыгімонта Аўгуста (1550) — "Жаловал нам городничии наш киевскии, державца любецкии пан Иван Григор[ь]евич Служка из братею кровными своими Миколаем а Матеем Ивановичи Тяпиньскими...".[4] Словы "братею кровными" адразу кідаюцца ў вочы, бо кроўны азначае родны па крыві, які паходзіць ад адных продкаў.[5]

З прыведзенага робіцца зразумелым, што прозьвішча Цяпінскі ўтварылася ад назвы маёнтка. Гэткіх прыкладаў ведама шмат, вялікая колькасьць шляхецкіх прозьвішчаў паходзяць з гэтага кораню.

Са згаданага ўжо можна пабудаваць пэўную гэнеалёгію, наверсе якой Амяльян, у яго два сына Грыгор Слушка й Іван. У Грыгора сыны Іван і Павел, а ў Івана Мікалай і Мацей Цяпінскія. Сюды ж трэба дадаць і сястру Паўла й Івана Слушкаў, што была замужам за Андрэем Багдановічам Шалухою, дзяржаўцам Крычаўскім. Ён у лісьце да Івана называе яго шурынам.[6] А ў попісе войска ВКЛ 1565 г. даведваемся яе імя — Ганна.[7]

Грыгор Амяльянавіч Слушка быў дваранінам гаспадарскім, Цырынскім намесьнікам пана Яна Забярэзінскага. Апошнім разам ён згадваецца ў 1517 г.[8] Аб мяркуемым сыне Амяльяна Іване, што пачаў род Цяпінскіх, нічога нам сёньня невядома.

Пра Паўла Грыгоравіча ведама таксама няшмат: быў ён войтам Камянецкім, дзяцей не пакінуў, памёр пасьля 1547 г.[9]

Іван Грыгоравіч — постаць значна больш амбітная, згадваецца ва ўсіх гэрбоўніках — быў ён Кіеўскім гараднічым, Любецкім і Навадворскім старостам. Жонка яго Багдана Лазчанка, дачка Васіля. Памёр ён дзесьці ў 1560 г.[10]

З сыноў Івана называюць толькі Мікалая[11] й лічаць яго адзіным, але быў яшчэ сын Іван. 31 ліпеня 1565 г. на попіс войска літоўскага ён выстаўляе 3 коней, двух з Крыгалава й аднаго зь Відагошча.[12] А нам ведама, што Іван Грыгоравіч ужо памёр, тым больш у гэтым жа попісе Багдана Лазчанка выстаўляе коней сярод "почты паней вдовъ".[13] Яшчэ адным доказам гэтага можа служыць тое, што Кіеўскага гараднічага называлі Слушка Стары,[14] напэўна рабілі гэта на тое, каб ня блытаць Івана-бацьку зь Іванам-сынам.

Але, мабыць, ён загінуў у войнах з Масковіяй, бо ўжо ў 1567 г. зь Відагошча каня выстаўляе Мікалай Слушка,[15] у будучым староста Крычаўскі.[16]

Братоў у іх больш не было, а сясьцёр, можа, й тры. Нясецкі называе толькі адну Рэгіну, што была замужам за Марцінам Палецкім.[17] Адзіны дакумент, дзе яна згадваецца, — тэстамент Марыны Гастомскай (1592), называе яе Раінаю.[18] Садкоўская, якая дасьледвала архіў Слушкаў, піша, што не знайшла згадкаў, каб яна была дачкою Івана Грыгоравіча. Між тым лічыць ейнаю сястрою Ганну, што была за Юрыям Зяновічам (1586).[19]

У попісе войска ВКЛ 1565 г. разам з Багданаю Лазчанкаю сярод удовіх пошт названа й "пані Малъхоровая Орыковичовая Ганъна Слущанъка".[20] (Напэўна яна да шлюбу зь Зяновічам была замужам за Арыковічам). Калі ўлічваць, што Ганна дачка Багданы, то трэба прызнаць, што Раіна таксама дачка Івана Грыгоравіча Слушкі.

Згадкі пра яшчэ адну Слушчанку знайшла Садкоўская — гэта Настасься, жонка Андрэя князя Лукомскага, яе без умоў залічвае за сястру Мікалая.[21]

Пра дзяцей Івана Іванавіча Слушкі нам нічога невядома. Адно толькі нейкая Матысава Слушчанка набыла ў 1557 г. дом у Вільні,[22] але ці была яна дачкою Івана-малодшага (ці можа нейкага невядомага Слушкі), сцьвердзіць нельга.

Мікалай Іванавіч жа пакінуў чатырох дзяцей разам з Гальшкаю Іванаўнаю Кміцянкаю — гэта Мікалай, Крыштаф, Аляксандар і Ганна.[23] Памёр Крычаўскі староста прыкладна ў 1583 г.


*Гэрб "Астоя"*

Згаданыя вышэй зьвесткі — амаль усё, што ведама пра Слушкаў у 16 ст. Зьвестак пра Цяпінскіх захавалася йшчэ менш.

Пра сыноў Мікалая Цяпінскага даведваемся з тэстамента ягонай жонкі Матрэны, іх было трое — Васіль, Ждан і Іван-Война.[25] Тутжа згадваецца й Мікалай Слушка, старосьціч Любецкі, дваранін ЯКМ, яму даручаецца ў апеку Война. Яшчэ адно ймя з дакумента — гэта ўнука Марына, але чыя яна дачка, не названа. Калі палічыць, што Война непаўналетні, дык ці Васіля, ці Ждана.

Сыноў Васіля Абрама й Табіяша называе ў сваёй працы Доўнар-Запольскі.[26] Пра яшчэ аднаго, Канстанціна, паведамляюць дакументы, нядаўна расшуканыя ў НА Беларусі.[27] Тут, дарэчы, згадваецца й імя іхнае маці — Зоф'і князёўны Жыжэмскай, але яно было вядома й раней.[28]

Асабліва цікавыя зьвесткі дае дакумент, дзе гаворыцца пра мінулыя падзеі. Абрам і Канстанцін кажуць (1600), што ехалі "по справе своей ... с паном Иваном и Василием Матвеевичами Тяпинскими о забите через них отцу нашого пана Василя Тяпинского."[29]

Гэтае злачынства, калі браты забілі стрыечнага брата мела даўнія карані. Яшчэ іхныя бацькі судзіліся адзін з адным (1539) і, напэўна, нагодай гэтаму было Цяпіна.[30] Бо яшчэ доўга маёнтак будзе выклікаць шматлікія судовыя справы.

Акрамя ужо вядомых сыноў Мацей меў яшчэ аднаго — Марціна, пэўна, старэйшага. Яны згадваюцца ў попісе войска 1565 г.,[31] прычым у попісе 1567 г. Мацей запісаны як "сам дей старъ"[32] і таму выстаўляе замест сябе слугу, як двума гадамі раней сына.

Першым разам Мацей названы, як "Матей Омельянович Тяпин-

скі".[33] такім кшталтам называўся й Васіль, як пра тое пісаў Доўнар-Запольскі.[34] Тут можа быць два тлумачэньні гэтае зьявы.

Па-першае, гэта можа быць вытворным ад імя іхнага прадзеда, як, напэўна, й ёсьць. Здараецца, што з гэтага й пачынаецца новы род. Менавіта гэтага кораню Пятровічы, Клімовічы, Янушкевічы, тым больш, што вядомы й Амельяновічы.

На другую мажлівасьць зьвернула ўвагу Бабкова — гэта назва земляўладаньня. У яе прыкладзе фігуруе маёнтак жонкі Васіля Зоф'і (Васілеўны?) князёўны Жыжэмскай[35]. Але мажліва, што нейкая Амельянаўшчына ці Амяльянаўка была і ў Мацея.

Маёмасныя дачыненьні таго часу вельмі складаныя й заблытаныя. Не выключэньне й Цяпіна. Каму яно канкрэтна належала, вызначыць цяжка, бо кожны раз, як маёнтак згадваецца ў дакумэнтах, уладальнік іншы.

У 1547 г., згодна з Банецкім, Цяпіна належала Івану Грыгоравічу Слушку[36]. А ў 1550 г. ён разам са стрыечнымі братамі скардзіўся Жыгімонту Аўгусту на жонку Януша Юр'евіча князя Гальшанскага, Альжбэту Мікалаеўну князёўну Радзівіл, якая захапіла мястэчка Чашнікі, што апісваецца як складаная частка Цяпінскага маёнтка[37].

У Полацкай рэвізіі 1552 г. згадваюцца Мацей (названы як Matwiey) і Мікалай Іванавіч Цяпінскія, прычым пісаны яны паасобку й кожны "маеть именье отчизное, дворець Тяпино с пашнею."[38]

Попіс Полаччыны, праведзены маскоўскімі дзякамі ў 7071 (1563) і ў 7074 (1566) г, падае "Тяпинскіе земли ... вотчина пана Миколая Тяпинскаго"[39].

У 1580 г. ніводзін зь іх ня згадваецца, з Цяпінскіх выступаюць толькі Марцін і Васіль, і то, як захопнікі чужых земляў[40]. А ў 1588 г. па сьведчаньню Доўнар-Запольскага ўладальнікамі Цяпіна былі Мацей і Мікалай[41].

Становішча вельмі цікавае — тастамент Матрэны Цяпінскай называе мужа свайго Мікалая нябожчыкам у 1563 г.[42]. Мікалай Іванавіч Слушка таксама ўжо памер (к. 1583).

Найбольш праўдападобным тлумачэньнем будзе, што пад маскалямі згадваецца Мікалай Іванавіч Слушка, а пазьней ягоны сын, таксама Мікалай. Менавіта ён у 1591 г. застаўляе маёнтак на тры гады Юрыю Наркевічу[43]. У хуткім часе й гэты Мікалай памірае — 1597 г.[44] Цяпіна пераходзіць да ягонага брата Крыштафа, які ў 1601 годзе прадаў маёнтак князю Станіславу Сьвірскаму[45].

Але Доўнар-Запольскі падае, што ў 1604 г. сыны Васіля Цяпінскага Абрам і Табіяш судзіліся за Цяпіна[46].

Як відаць, маёмасныя стасункі паздаюцца вельмі заблытанымі. Але вырашэньнем гэтае праблемы зьяўляецца тое, што пэўна пад найменьнем Цяпіна рэпрэзентуюцца два паселішчы, прытым знаходзіліся яны ў непасрэдным суседзтве.

Доказы гэтаму мы знаходзім у працы Аглобіна, які склаў мапу Полаччыны 16 ст. на падставе расейскіх пісцовых кнігаў часу, калі Масковія захапіла гэтыя землі. Ён называе поруч зь сялом Цяпіна за адну вярсту пагост Цяпіна[47]. Пагост жа, акрамя вядомага значэньня могілак можа быць і населеным месцам, прычым у 16 ст. менавіта гэтае азначэньне пераважна скарыстоўвалася[48].

Гэткая ж праблема паўстае й зь вядомым публіцыстам. Як ужо бачна было два Васілі Цяпінскія, а вядомы рэфармацыйны дзеяч сябе па бацьку не называў. Гэта ўжо пазьнейшыя дасьледчыкі ягонае творчасьці надалі яму бацьку Мікалая, адрыцьцё ж стрыечнага брата-цёзкі ставіць вельмі шмат пытаньняў. Раней усё, што ведама пра Васіля Цяпінскага, прыпісвалася аднаму чалавеку, а іх было два. Лічылася, што Цяпінскі памёр каля 1604 г.[49], дакументы са "Спадчыны" гавораць пра сьмерць Васіля Мікалаевіча раней або ў 1600 г.[50]. Калі ўсё ж памёр беларускі кнігавыдавец і рэфарматар Васіль Цяпінскі, хто быў ягоным бацькам -- на гэтыя й на шмат іншыя пытаньні адказы даць сёньня немажліва, але будзем мець надзею, што будучыя архіўныя адкрыцьці дапамогуць знайсьці іх.

---

Крыніцы і літаратура

1. Довнар-Запольский М.В. В.Н. Тяпинский, переводчик Евангелия на белорусское наречие.-- СПб., 1899
2. Там же, с. 20
3. Boniecki A. Poczet rodow w Wielkim Ksiestwie Litewskim w XV i XVI wieku. -- W-wa, 1887. -- S. 322.
4. Шляхам гадоў. -- Мн., 1990. -- Вып. 2. -- С. 334.
5. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. -- Мн., 1989. -- Т. 5. -- С. 119.
6. АСЗР. -- Вильно, 1867. -- Т. 1. -- С. 131 -- 133.
7. Литовская метрика. -- Отд. 1. -- Ч. 3. : Книга публичных дел. -Пг., 1915. -- Стб. 242. -- (РИБ; Т. XXXIII).
8. Литовская метрнка. -- Отд. 1. -- Ч.1. : Книга судных дел. -- Пг., 1903. -- Стб. 476, 514-515. -- (РИБ; Т. XX).
9. Sadkowska C. Genealogia rodu Sluszkow i ich archiwum (szkis genealogiczno-archiwalny) // Archeion. -- W-wa, 1969. -- LII. -- S. 62.
10. Tamze, s. 61.
11. Niesiecki K. Herbarz Polski. -- Lipsk, 1841. -- T. VIII. -S. 413; Sadkowska, s. 62.
12. Литовская метрика, стб. 248 -- (РИБ; Т. XXXIII).
13. Там же, стб. 242.
14. Sadkowska, S. 61.
15. Литовская метрика, стб. 248 -- (РИБ; Т. XXXIII).
16. АВАК. -- Вильна, 1912. -- Т. XXXVI. -- С. 267, 370, 427, 430.
17. Niesiecki, s. 413-414.
18. АСЗР. -- Вильна, 1869. -- Т. 6. -- С. 289.
19. Sadkowska, s. 63.

20. Литовская метрика, стб. 248. -- (РИБ; Т. XXXIII).
21. Sadkowska, s. 63-64.
22. Tamze, s. 63
23. Kojalowicz W.W. Herbarz rycerstwa W.X.Litewskiego, tak zwany Compendium... -- Krakow, 1897. – S. 207; Niesiecki, s. 414; Sadkowska, s. 63; АВАК. -- Вильна, 1887. – Т. XIV. – с. 355, 411, 635, 637, 644; АВАК. – Вильна, 1912. -- Т. XXXVI. – с. 370, 379-380.
24. Sadkowska, s. 62.
25. Шляхам гадоў, с. 335-337.
26. Довнар-Запольский, с. 21.
27. Спадчына. -- 1991. -- № 3. -- С. 15-19.
28. Довнар-Запольский, с. 21.
29. Спадчына, с. 16.
30. Беларускі архіў. – Мн., 1928. – Т. II. — С. 282.
31. Литовская метрика, стб. 253. -- (РИБ; Т. XXXIII).
32. Там же, стб. 533.
33. Там же, стб. 253.
34. Довнар-Запольский, с. 20.
35. Бабкова В. Васіль Цяпінскі. Новыя дакументы // Спадчына. -- 1991. -- № 3. -- С. 15.
36. Boniecki, s. 322.
37. Шляхам гадоў, с. 335.
38. Лаппо И.И. Полоцкая ревизия 1552 года. -- М., 1905. -- С. 148-149.
39. Тетрадь; в ней писаны рубежи городу Полотцу н Полотцкому повету ... // ВОИДР. -- М., 1856. -- Кн. 24. -- С. 3-4; Писцовые кнпги XVI века. -- СПб., 1877. -- Отделение II. -- С. 423.
40. Лаппо И.И. Описанне Полоцких владычних, монастырских и церковных земель ревизорами 1580 года // ЧОИДР. М., 1907. -- Кн. 3. -- С. 2, 13.
41. Довнар-Запольскій, с. 21.
42. Шляхам гадоў, с. 335.
43. АВАК. -- Вильиа, 1887. -- Т. XIV. -- С. 411.
44. Sadkowska,
45. Slownik geograficzny krolewstwa Polskiego i innych krajow slowianskich. W-wa, 1880. -- T. I. -- S. 670.
46. Довнар-Запольский, с. 31.
47. Оглобин Н. Объяснительная записка к карте Полоцкого повета 2-й половины XVI века // САИ. — 1880. — Кн. 4. — С. 60.
48. Словарь русского языка XI-XVII вв. — М., 1989. — Вып. 15. — С. 196-197.
49. БелСЭ. -- Мн., 1974. -- Т. 11. -- С. 164.
50. Спадчына, с. 16.

